**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№28(640)**
**12 ліпеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## МНС інфармуе
### на 10.07.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 663;
Гібель людзей – 86, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3569,4 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 28;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 198 850 000 руб.

# Апакаліптычная карціна ў Лынтупах

У нядзелю 8 ліпеня, пасля 30-градуснай спякоты, ціхага і бязветранага надвор'я, у другой палове дня, недзе а 18-й гадзіне, на цэнтральную частку Глыбокага наляцеў страшэнны ўраган. Паваленыя і вывернутыя з каранямі дрэвы ў парку Перамогі, скверы на пл. 17 Верасня, на вул. Савецкай і Буўніцкага.

На наступны дзень стала вядома, што гэты ўраган, перад тым, як нарабіць шкоды Глыбокаму, старашэнна, а то і больш, чым Глыбокае, пашкамутаў Лынтупы.

*Працяг тэмы на стар. 5.*





Здымкі Альфрэда Мікуса

**Старадаўні графскі парк у Лынтупах – суцэльны буралом (уверсе).**

**Цагляную агароджу каля спіртзавода як карова языком злізала, рассыпалася па прынцыпе даміно (злева).**



«**Купалле**-2012». **Вельмі ўразіла гледачоў юная артыстка, адзінаццацікласніца Глыбоцкай гімназіі, Насця Ламан сваёй песняй пра васількі.**

*Фота Я. Самсонава.*

# Фэст святой Ганны ў Лучаі 28-07-2012

**Парафія св. апостала Юды Тадэвуша ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае ўсіх жадаючых прыехаць, супольна памаліцца і адпачыць духоўна на Лучайскім фэсце, які будзе праводзіцца ў гонар святой Ганны 28 ліпеня г.г., пачатак у 17:00.**

Сёлетні фэст мае быць добрай нагодай, каб чарговы раз шчыра праслявіць Бога праз заступніцтва нашых святых апекуноў. Будзе нагода духоўна ачысціцца ў сакрамэнце споведзі і трываць на адарацыі. Галоўным пунктам свята будзе ўрачыстая святая імша, якую правядзе пробашч "Чырвонага касцёла" з Мінску кс. Уладзіслаў Завальнюк. Таксама асвячэнне чарговых барэльефаў, якія ствараюць унікальнае Евангелле ў абразах вакол святыні.

А пасля, як звычайна, будзе святочная праграма з "Лучайскімі пачастункамі", забавамі, "Вёскай майстроў", узнагароды для футбольнай каманды сярод міністрантаў (матч пройдзе ў гэты дзень) і канцэрт з удзелам вядомых чатырох гуртоў. Заканчэннем фэсту – фаер-шоў з выкананнем новай песні аб Лучаі.



Той, хто хоць аднойчы пабываў у Лучаі, хоча прыехаць ізноў. Таму шчыра запрашаем Вас запланаваць гэты дзень для Лучая!!!

Святыня адчынена кожны дзень для наведвання. Дадаткова з 30 чэрвеня працуе фотавыстава беларускага фатографа Віталя Раковіча "Святло беларускіх храмаў".

Запрашаем! Будзем рады Вас бачыць!

***Кс. Мікалай Лінскі***

## ПРАГРАМА:

**СВЯТЫЯ – НАШЫЯ СЯБРЫ НА ШЛЯХУ ДА НЕБА!**

17:00 - Адарацыя
17:30 - Святая Імша за ахвярадаўцаў
18:30 - асвячэнне барэльефаў
19:00 - мініфэстываль з пачастункам і забавамі
22:45 - фаер-шоў

## Полацкі раён

# І высокі мастацкі густ

■ Чэслаў Якубовіч

**Заўсёды і ўсюды ва ўсіх сферах дзейнасці поспеху дабіваюцца прафесіяналы з творчым падыходам да выбранай працы.**

Менавіта шмат такіх адораных людзей працуюць на адным з вядучых у рэгіёне прадпрыемстве – ААТ "Тэхналіт Полацк". Толькі пры вырабе тут адной з першых скульптур князя Андрэя сюды запрасілі спецыялістаў мастацкага ліцця з Масквы, а потым самі палачане асвоілі гэтыя тэхналогіі. У скарбонку палачан цяпер можна смела аднесці аднаўленне трох помнікаў героям Айчыннай вайны 1812 года. Высокую ацэнку спецыялістаў атрымалі адлітыя тут скульптурныя кампазіцыі "Русалачка" па заказу Лепельскага раёна і рэдкі помнік калодзежа для Полацкага дзяржуніверсітэта. Для розных гарадоў Беларусі і замежжа добра разыходзяцца мемарыяльныя дошкі, чугунныя прылады паркавай архітэктуры, заказы на якія сталі паступаць і па Інтэрнэту. Ужо трэць такой прадукцыі мастацкага ліцця ідзе на экспарт. У бліжэйшы час гэта вытворчасць будзе выведзена з цэнтра горада на ўскраіну ў прамысловую зону Ксты, а яе аб'ёмы павялічацца з цяперашніх 4 да 10 тысяч тон ліцця за кошт укаранення больш сучаснага энергазберагальнага абсталявання. У гэтага праекта з'явіўся свой інвестар. Акрамя творчых заказаў на заводзе паспяхова асвоілі і выраб абсталявання для сучасных аўтаматызаваных даільных залаў па нямецкай тэхналогіі. На чарзе выпуск і вакуумных установак даення малака для новых ферм па ўсёй краіне.

## Пастаўскі раён

# Сродкаў не хапае

■ Кастусь Александровіч

**Сёлета да канца года павінны ў Паставах на мясцовым малочным заводзе здаць у эксплуатацыю новы цэх па вытворчасці сыроў, а па-сутнасці яшчэ адзін сучасны завод.**

На ім вытворчыя магутнасці дазваляюць кожныя суткі выпускаць 20 тон прадукцыі, у 10 разоў болей, чым цяпер. Аднак і якаснай сыравіны толькі на выраб сыроў спатрэбіцца мець штодзень 200 тон. Таму для завадчан прынятая праграма рэканструкцыі імадэрнізацыі жывёлагадоўчых ферм аказалася патрэбнай, асабліва будаўніцтва магутнага малочнага комплекса з даярамі-робатамі ў сельгаспрадпрыемстве "Навасёлкі-Лучай". Аналагічны сучасны кароўнік у раёне дзейнічае ў ААТ "Хацілы-агра" і там надоі, як у Еўропе. Новую такую ферму пачалі ўзводзіць яшчэ летась, а потым грошы скончыліся і гэты аб'ект нават выключылі з дзяржаўнай праграмы. На завяршэнне першай чаргі патрэбна 100 млрд. рублёў, а ўсімі праўдамі і няпраўдамі ўдалося дабіцца выдзялення сёлета на гэту ферму толькі 10 млрд. Адной гаспадарцы пацягнуць такую ношу проста нерэальна і адна надзея толькі на кітайскіх інвестараў, з якімі вядуцца перамовы. Тым часам у раёне вядуцца работы па рэканструкцыі 13 ферм і ўжо ў верасні памяшканні будуць прымаць прадстаўнікі Дзяржкантролю. Як і ў іншых рэгіёнах вобласці, гатоўнасць аб'ектаў нізкая, грошай не хапае і за кароткі тэрмін устанавіць там паўсюдна малакапроводы, халадзільнікі будзе вельмі складана.

## Верхнядзвінскі раён

# Каб душа радавалася

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам шмат якія мястэчкі ў глыбінцы папрыгажэлі, быццам памаладзелі і змянілі да лепшага свой выгляд.**

Раней за іншых у гэтым накірунку пачаў развівацца райцэнтр Верхнядзвінск, дзе яшчэ за савецкім часам намаганнямі супрацоўніка мясцовага лясгаса Васіля Паўлючкова на ўскраіне горада заклалі ўнікальны цяпер дэндрапарк. Цяпер побач з ім з'явіўся дзіцячы парк "Лясная казка" з сапраўдным заапаркам, куды паглядзець за дзікімі жывёламі ў вальерах прыходзяць сотні людзей. Аднак і мясцовы батанічны сад на плошчы 7 гектараў па-ранейшаму – выдатнейшае месца адпачынку, бо ў ім прадстаўлены нават 15 розных відаў сасны і 14 – ёлкі, прадстаўнікоў флоры Амерыкі, Азіі, Далёкага Усходу, якія прыжыліся добра і ў нас. Адных сародзічаў дубу тут жыве 6 відаў, сярод якіх балотны і зусім рэдкі чырвоны дуб, чырвона-палымяныя лісты якога не спадаюць з ветак і зімой. Усю гэту дзіўную прыгажосць зараз у лясгасе задумалі абнавіць, зманціравалі палівачную сістэму і зрабілі новую цяпліцу ў пітомніку для вырошчвання цэнных рэдкіх лісцёвых парод дрэў. Намецілі лесаводы пасадзіць да 10 тысяч чаранкоў розных парод, прадстаўленых у дэндрапарку, атрымаць праз пару гадоў маленькага кедру, чорнай бярозы і сястры магноліі амерыканскае цюльпанавае дрэва. Садажанцы пойдуць на амаладжэнне дэндрапарку, азеляненне ваколіц і на продаж.



# Лічба нумара

**351** – столькі чалавек па рашэнні выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта ўключылі ў склад спартыўнай дэлегацыі, якая прадставіць Рэспубліку Беларусь на прадстаячых летніх гульнях Алімпіяды-2012 у Лондане. Да гэтых самых маштабных стартаў чалавецтва будзе прыцягнута ўвага ўсяго свету падчас іх правядзення ў брытанскай сталіцы з 27 ліпеня па 12 жніўня. На туманны Альбіён першыя пасланцы нашай краіны, спартсмены і трэнеры выехалі 8 ліпеня.

Астатняя частка беларускай дэлегацыі, у асноўным розныя групы атлетаў і іх настаўнікаў, пачнуць вылятаць туды самалётамі пасля 20-га ліпеня, у залежнасці ад таго, калі ім выходзіць на старт спаборніцтваў. Планавалася, што ў Лондан сёлет адправіцца ўсяго 166 спартсменаў, прадстаўленых у 25 відах спорту, а таксама 75 трэнераў, масажыстаў, псіхолагаў і іншы абслугоўваючы персанал і 28 розных функцыянераў ад спорту. Праўда, спецыялісты заўважылі, што напрыканцы чэрвеня беларусамі было заваявана толькі 153 алімпійскія ліцэнзіі, што менеей, чым планавалася раней.

Заставаліся аднак надзеі, што наша зборная зможа ў першай дэкадзе ліпеня дабраць яшчэ колькасць месц на Алімпійскіх гульнях у лёгкай атлетыцы, дзе мы заўсёды бралі медалі. У цэлым, хоць і рыхтаваліся выступіць на гэтых гульнях добра беларусы, але ж ліцэнзій не дабралі, што прагучала першым трывожным званочкам. Аднак чыноўнікі Міністэрства спорту і турызму на чале з міністрам стаяць на сваім: неабходна любой цаной выканаць пастаўленую галоўным беларускім фізкультурнікам задачу па заваяванню 25 медалёў рознай вартасці, з іх 5 залатых. І ад яе, падобна на тое, не будуць адмаўляцца, хоць з такіх патрабаванняў вядомага хакеіста А. Лукашэнкі можа выйсці чарговы канфуз.

Проста непрымальна на такіх сусветных спаборніцтвах неверагоднага накалу і жорсткай канкурэнцыі ставіць канкрэтныя заданні спартсменам і дадаткова нерваваць іх. Паўсюдна ў свеце будуць "хварэць" за сваіх, бо над лонданскімі суперсучаснымі спартыўнымі арэнамі будуць вісець сцягі 204 краін, членаў МАК. Праўда, для нашых беларускіх атлетаў устанавілі больш высокія прэміяльныя. За заваяваны залаты медаль алімпійцу зборнай Беларусі акрамя ўсеагульнай пашаны ўручаць 150 тысяч долараў прэміяльных. Але ж паспрабуй яго там заваяй, калі твае сапернікі настроены таксама вельмі рашуча.

Напярэдадні Алімпіяды ў Лондан з Мінска былі дастаўлены неабходнае абсталяванне і інвентар. Прыбыла туды спецыяльная група арганізацыі і размяшчэння разам з перакладчыкамі. Першымі туды прыляцелі беларускія футбалісты, каб правесці двухтыднёвы спецыяльны збор, згуляць кантрольны матч з японцамі. Спецыялісты агледзелі аб'екты, дзе неўзабаве будуць выходзіць на старты алімпійцы. Пікантным заставалася пытанне, ці пусцяць у Лондан неўязнога ў Еўрасаюз, ЗША і шэраг іншых краін свету беларускага прэзідэнта?

Па свайму статусу яшчэ і прэзідэнта НАКа РБ ён можа з'явіцца ў англійскай сталіцы, як чыста спартыўны функцыянер. Любіць Рыгоравіч спорт, вось і ў Кіеве ён пабываў на фінальным матчы футбольнага Еўра, але з неафіцыйным рабочым візітам. Зрэшты, на сам ход правядзення Алімпіяды гэта не адаб'ецца. "Беларускага дома" ў Лондане, як хлебасольнага расійскага, там не будзе, а па неабходнасці розныя мерапрыемствы, ушанаванне спартыўных герояў можна будзе правесці ў беларускім пасольстве.

Пакуль жа нагадаем, што дагэтуль беларускія алімпійцы найбольш удала выступілі на папярэдняй Алімпіядзе-2008 у Пекіне, адкуль прывезлі дамоў 19 заваяваных медалёў рознай вартасці, з якіх 4 залатыя, 5 сярэбраных і 10 бронзавых. Да пачатку чарговых гульняў засталіся лічаныя дні і рабіць нейкія прагнозы наконт іх вынікаў – справа няўдзячная. За Алімпіядай сочаць сотні мільёнаў людзей, а за прыгожымі цырымоніямі адкрыцця і закрыцця гульняў ужо мільярды тэлегледачоў.

У такой сітуацыі Алімпійскія гульні становяцца больш, чым спортам высокіх дасягненняў, гэта яшчэ і дыпламатыя. Нам застаецца спадзявацца, што Беларусь зноў пацвердзіць свой даволі высокі спартыўны статус у свеце. Верым, што беларусы дакажуць там, што яны - людзі працалюбівыя, таленавітыя і што мы - здаровая, спартыўная нацыя. Чакаем, што і ў Лондане наша беларуская каманда не адзін раз апынецца на п'едэстале гонару і пакажа там выдатныя вынікі, а мы за нашых будзем шчыра перажываць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 12.07.12 | | | | Пятніца 13.07.12 | | | | Субота 14.07.12 | | | | Нядзеля 15.07.12 | | | | Пнд.16.07.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +23 | +26 | +22 | +16 | +17 | +20 | +18 | +12 | +16 | +18 | +18 | +14 | +19 | +21 | +19 | +12 | +17 | +18 |
| Ціск | 745 | 744 | 742 | 740 | 738 | 741 | 742 | 743 | 743 | 743 | 741 | 739 | 739 | 740 | 741 | 741 | 742 | 742 | 742 |
| Вільготнасць | 83 | 63 | 51 | 71 | 96 | 73 | 52 | 59 | 83 | 85 | 70 | 75 | 89 | 71 | 52 | 61 | 93 | 72 | 59 |
| Вецер м/сек | 2 Ю-В | 4 Ю-В | 3 Ю | 2 Ю-З | 7 З | 6 З | 8 З | 3 Ю-З | 2 Ю-З | 4 Ю | 4 Ю | 3 Ю | 4 Ю-З | 6 Ю-З | 8 З | 4 З | 4 З | 4 З | 6 З |

## Дзень за днём

**Плацяжы Беларусі па замежных даўгах сёлета павялічыліся ў 2 разы, па ранейшых крэдытах трэба выплаціць 1,6 млрд. долараў, што даволі істотная праблема для краіны. Пасля правядзення зверкі спісаў чарга ў Мінску на паляпшэнне жыллёвых умоў скарацілася на 15 тысяч сем'яў. Амаль у кожным пятым дзіцячым аздараўленчым лагеры выявілі парушэнні санітарных норм. Кошт навучання ў айчынных ВНУ павялічыўся яшчэ на 5 %. Адразу ў 17 відах спорту недабралі беларускія спартсмены ліцэнзій за права выступаць на Лонданскай Алімпіядзе. У Пекіне гонар Беларусі абаранялі 184 атлеты, цяпер будзе менеў 160 нашых алімпійцаў і гэта першы крок да правалу на гульнях.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Місія назіральнікаў ААН пацвердзіла, што ў Сірыі ідзе ўжо паўнамаштабная грамадзянская вайна, узмацніўся ціск на Расію, якая падтрымлівае рэжым Б. Асада.

**Расія.** Экс-глава Мінфіна РФ Аляксей Кудрын заявіў, што ідэя агульнай валюты нявыгадная як краінам ЕўрАзЭС, так і самой Расіі, нежыццяздольная ў бліжэйшыя 10 год.

**Іспанія.** Колькасць пабудаваных пустуючых кватэр дасягнула ў краіне 5 млн, крызіс узмацніўся і наяўнасць 800 тысяч непрададзеных віл з відамі на мора, а банкі – банкроты.

**Сірыя.** Расійскія ўлады пачалі падрыхтоўку эвакуацыі сваіх ваенных і грамадзян РФ на выпадак далейшага абвастрэння сітуацыі ў краіне і замежнай узброенай аперацыі.

**Саудаўская Аравія.** Урад краіны вырашыў плаціць зарплату байцам "Сірыйскай свабоднай арміі" з мэтай узмацніць ціск на Дамаск і стымуляваць уцёкі з арміі Б. Асада.

**Расія.** У Дзяржаўным ваенным архіве гісторык Наталля Лебедзева знайшла спіс з 1996 польскіх і беларускіх афіцэраў, расстраляных 15 брыгадай НКВД у Беларусі ў 1940 годзе.

**Турцыя.** Прэзідэнт Абдула Гюль паабяцаў адказаць "належным чынам" на збіты Сірыяй у СярОдземным моры ў 10 км ад берагу турэцкі ваенны самалёт-знішчальнік F4 "Фантом"

**Румынія.** Былы 61-гадовы прэм'ер-міністр А. Нэстасе няўдала спрабаваў паконччыць жыццё самагубствам, калі суд пакараў яго 2 гадамі турмы па абвінавачванні ў карупцыі.

**Парагвай.** Парламент краіны пасля гібелі 17 беззямельных сялян у сутычцы з паліцыяй абвясціў імпічмент прэзідэнту Фернанда Луга, яго адстаўку павінен прыняць яшчэ Сенат.

**Польшча.** Польскае МЗС выказала "сур'ёзную занепакоенасць" чарговым арыштам гродзенскага журналіста і аднаго з лідараў Саюза палякаў у Беларусі Андрэя Пачобута.

**Грэцыя.** Пасля прывядзення да прысягі новы кабінет міністраў на чале з Антонісам Самарасам на 30 % скараціў заробкі чыноўнікам урада з мэтай вываду краіны з крызісу.

**Зімбабве.** У рамках кампаніі па барацьбе са СНІДам група дэпутатаў прама ў парламенце зрабілі сабе абразанне, каб іх прыклад пераймалі іншыя, у краіне 1 млн. інфіцыраваных ВІЧ

**Карэя.** Кампанія Samsung Electronics аб'явіла аб выхадзе і на беларускі рынак са сваімі флагманскімі смартфонамі навейшага пакалення GALAXY SIII у розных салонах сувязі.

**Тайланд.** Вялікі рой пчол напаў на будыйскі храм у правінцыі Чыянгмай, у выніку чаго ў бальніцу паступіла 76 манахаў, з іх 19 – у цяжкім стане, а 6 манахаў трапілі ў кому.

**Расія.** У асноўную конкурсную праграму 34 Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю праз 27 гадоў трапіў беларускі фільм "Самотны востраў", зняты разам з Латвіяй, Эстоніяй.

# Мінлясгас узмацніў кантроль за выкананнем правіл нарыхтоўкі дзікарослых ягад і грыбоў



■ Марына Носава БелаПАН

**З пачатку сезону нарыхтоўкі лясных ягад дзяржаўная лясная ахова Міністэрства лясной гаспадаркі павялічыла колькасць рэйдаў, накіраваных на кантроль выканання грамадзянамі правіл нарыхтоўкі дзікаросдых ягад і грыбоў. Пра гэта БЕЛАПАН паведамілі ў прэс-службе міністэрства.**

У Мінлясгасе адзначаюць, што спецыяльная ўвага звяртаецца на ягадныя месцы ў лясным фондзе, а таксама месцы масавага адпачынку. Апроч кантролю за зборам ягад, лясная ахова правярае выкананне адпачываючымі правіл пажарнай бяспекі, а таксама спыняе парушэнні, злучаныя з запарушваннем лясоў.

З пачатку сезону нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў у выніку рэйдавых мерапрыемстваў дзяржаўнай лясной аховы да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута больш 300 парушальнікаў па ст.15.26. КОАП (парушэнне правіл нарыхтоўкі, збору ці закупы грыбоў, іншых дзікарослых раслін ці іх частак).

Акрамя таго, за парушэнне правіл пажарнай бяспекі ўлясах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 215 парушальнікаў, за распальванне вогнішчаў у забароненых месцах ляснога фонду – 113, за запарушванне лясоў – 1.553.

Мінлясгас нагадвае, што артыкул 15.26. КОАП прадугледжвае буйныя штрафы – да 20 базавых велічынь на грамадзян, да 100 – на індывідуальных прадпрымальнікаў і да 500 – на юрыдычныя асобы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка даручыў ураду Беларусі павысіць з 1 жніўня і ў кастрычніку тарыфную стаўку 1-га разрада, У маі такое павышэнне склала 5 %.

**Глуск.** На рэкордный глыбіні 4300 метраў спецыялісты Мазырскай нафтаразведвальнай экспедыцыі знайшлі пад зямлёй залежы нафты. Летась яе у Беларусі здабылі 1,7 млн. тон.

**Гродна.** Літаральна за год вакол горада пабудавалі з дапамогай рэспубліканскага бюджэту патрэбную аб'язную дарогу, размовы аб ёй вяліся з пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя.

**Барысаў.** На базе завода БАТЭ сабралі першыя два кітайскія легкавыя аўтамабілі Geely для сертыфікацыі, але супраць іх зборкі ў Беларусі катэгарычна выступае Расія.

**Гомель.** Услед за стварэннем холдынга МАЗ-КамАЗ урад Беларусі прапанаваў Расіі аб'яднаць на рынкавай аснове завод "Гомсельмаш" з расійскім "Ростсельмашем".

**Горкі.** У ходзе падрыхтоўкі да "Дажынак-2012" на будаўнічых аб'ектах райцэнтра з-за аўралу і спешкі адбылося ўжо 7 няшчасных выпадкаў, з іх – 2 з цяжкімі наступствамі.

**Мінск.** Беларуская партыя левых "Справядлівы свет", як заявіў яе старшыня С. Калякін, будзе ісці на парламенцкіх выбарах да канца, іншая апазіцыя байкатаваць гэтыя выбары.

**Мікашэвічы.** На РУВП "Граніт" сур'ёзна, у 2 разы павялічылі заробкі рабочым, перасталі па хамску да іх адносіцца, многія звязваюць змены з дзейнасцю незалежнага прафсаюза.

**Івянец.** У мясцовай кандытарскай фабрыкі невядомыя зламыснікі скралі … біятуалет, матэрыяльны ўрон яе кампаніі-гаспадара "Іўкон" склаў амаль 4 млн. рублёў.

**Гомель.** У напрамку Рэчыцы ў 5 км ад горада пабудуюць да 2014 года другі па ліку ў Беларусі крэматорый і калумбарый коштам 1 млн. долараў, такі аб'ект працуе ў Мінску.

**Барысаў.** Нягледзячы на атрыманую траўму сцягна, алімпійскі чэмпіён Пекіна Андрэй Арамнаў адназначна паедзе на летнюю Алімпіяду ў Лондане, пацвердзілі ў штабе зборнай.

**Гродна.** У сваёй кватэры арыштавалі карэспандэнта польскай "Газеты выборчай" у РБ Андрэя Пачобута, супраць яго завялі крымінальную справу за "паклёп на прэзідэнта".

**Пружаны.** Падчас наведвання гарадскога аквапарку захлынуўся вадой і загінуў 9-гадовы хлопчык, вучань 3 класа, які адпачываў у школьным аздараўленчым лагеры пры СШ № 4.

**Мінск.** У адрозненне ад Расіі, праўдзівы фільм НТБ "Служу Савецкаму Саюзу" пра ката "Сраліна" (Сталіна) не прайшоў цэнзуру ў Беларусі, замест яго паказалі іншае кіно.

**Брэст.** На сусветным фестывалі тэатраў лялек у Кітаі спектакль мясцовага тэатра лялек "Халстамер" па повесці Льва Талстога прызналі адным з лепшых сярод 500 пастановак.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч рэзка раскрытыкаваў бессістэмны ход рэканструкцыі 228 ферм вобласці і ўзяў пад асабісты кантроль адзін з 3 вялікіх рэгіёнаў.

**Шуміліна.** Раённае кіраўніцтва давяло кожнай арганізацыі і прадпрыемствам заданне па касьбе і здачы па 200 кг зялёнай масы траў на кожнага работніка, усяго 228 тон па раёну.

**Полацк.** Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі А. Тозік падтрымаў ініцыятыву Віцебскага аблвыканкама аб стварэнні ў старажытным горадзе тэатра імя Ігната Буйніцкага.

**Верхнядзвінск.** У рамках Дня горада адбыліся дзіцячае свята "Двина-Дзвіна-Daugava" з удзелам юных талентаў з суседніх Расіі і Латвіі, дабрачынная акцыя "Ярмарка дабра".

**Глыбокае.** З пачатку года ўжо 89 рабочых-будаўнікоў звольніліся з мясцовай ПМК-48 і 65 чалавек з СПМК-33, сельгаспрадпрыемства "Канстанцінаў Двор" пакінула 56 работнікаў.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец у сааўтарстве з 31-гадовым сынам Уладзімірам, кандыдатам медыцынскіх навук выдаў новую навуковую кнігу "Інфекцыя ў хірургіі".

**Докшыцы.** Каля 4-х гадзін раніцы на дарозе ў 5 км ад райцэнтра не справіўся з кіраваннем іншамаркі 30-гадовы кіроўца, зляцеў у кювет, перакуліўся на машыне і загінуў на месцы.

**Расоны.** На працягу трох дзён у маляўнічых ваколіцах возера Волаба ў зоне адпачынку "Залатыя пяскі" праходзіў абласны турыстычны злёт больш 700 маладых людзей.

**Орша.** На будаўнічай пляцоўцы з высотнага вежавага крану двое падлеткаў ва ўзросце 16 і 17 гадоў скралі 20 метраў кабелю коштам 5,6 млн. рублёў, міліцыя раскрыла злачынства.

**Ушачы.** На радзіме Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі назвалі лаўрэатаў прэміі яго імя за 2012 год – вядомага музыканта Лявона Вольскага і краязнаўцу Аляксандра Белакоза.

**Дуброўна.** На тэрыторы раёна вечарам вадзіцель "Аўдзі" наехаў на веласіпедыста і збіў яго насмерць на дарозе, за адны суткі на Віцебшчыне адбылося 14 ДТЗ, загінулі 4 асобы.

**Гарадок.** У цяжкім стане трапіў у райбальніцу 63-гадовы жыхар вёскі Белахвостава, які цярпеў цэлы тыдзень апёкі цела, атрыманыя на падпітку каля кастра, дзе ён заснуў.

**Навапалацк.** Да новага сезона мясцовы хакейны клуб "Хімік" збірае да радыкальна амаладзіць свой склад ігракоў, грошай зноў не хапае на закуп канькоў і клюшак.

**Глыбокае.** З абласнога бюджэту на падрыхтоўку Дня беларускага пісьменства дадаткова выдзелена 30 млрд. рублёў, накіруюць брыгады будаўнікоў і дарожнікаў з іншых раёнаў.

**Віцебск.** Нядаўна створаны гарадскі сімфанічны аркестр даў канцэрт для ўдзельнікаў чарговай сесіі абласавета дэпутатаў, на якой зацвердзілі Праграму культурнай спадчыны.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Ул. Скрабатун

# Напалеон у Глыбокім

**У гэтым годзе спаўняецца 200 гадоў з дня паходу Вялікага Войска Напалеона Банапарта на Маскву, 200 гадоў аднаўленню Вялікага Княства Літоўскага, і 200 гадоў з дня побыту французскага імператара ў Глыбокім.**

13 чэрвеня расейскаму імператару Аляксандру І, які быў на балі недалёка ад Вільні ў маёнтку Закрэт графа Бенінгсэна, прынеслі тэрміновую дэпешу. Бегла азнаёміўшыся з дэпешай, Аляксандр І прамовіў: "Я гэтага чакаў, але ўсё ж баль адбудзецца". Сэнс дэпешы быў у тым, што войскі Напалеона, днём раней, пачалі пераправу праз раку Нёман у раёне Коўна.

Пазбягаючы бітваў, рускія паспешна сталі адыходзіць кірункам на Свянцяны, маючы намер адтуль рухацца да ўмацаванага лагера ў Дрысе. Расійскі самадзяржац пакінуў Вільню разам са сваім войскам. З братам – вялікім князем Канстанцінам – ён адпраўляўся ў Свянцяны, а адтуль праз Паставы ў Відзы (Браслаўскі раён).

На вайсковай нарадзе ў Дрысе, Аляксандр І прыняў рашэнне адвесці 1-ю рускую армію да Віцебска, куды, як ён чакаў, павінна прыбыць 2-я армія Баграціёна. Адступленне ў глыб краіны і злучэнне войскаў з гэтага моманту стала галоўнай мэтай усіх манеўраў рускіх.

## 200 гадоў аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага

Газета «Kurjer Litewski» ад 8 і 10 ліпеня 1812 г. паведамляла, што жыхары Вільні ўрачыста сустракалі французскага імператара Напалеона І. Аднак французскі амбасадар у Расіі А. Каленкур адзначаў у сваіх мемуарах, што імператар быў вельмі незадаволены сустрэчай, бо выбітныя літоўцы пазбягалі яго, ніхто не прастаўляўся, як не імкнуліся аб гэтым палякі, якія прыбылі ў Вільню разам з Напалеонам. І наогул пра жыхароў Літвы склалася ўражанне, што «яны вельмі халодна ставяцца да польскай справы, былі не схільныя да ахвяраў і вельмі незадаволеныя абмежаваннямі, звязанымі з вайной».

Таварыства літоўскіх губерняў было расколата. Адна яго частка сыходзіла з расейскім войскам, другая – стала на бок Напалеона, трэцяя (самая вялікая) імкнулася ўхіліцца ад ваенных дзеянняў.

Так! Адзнака Каленкурам сустрэчы жыхарамі Вільні – літоўцамі – Напалеона Банапарта досыць суровая, нават разбуральная! «Яны вельмі холадна ставяцца да польскай справы, былі не схільныя да ахвяраў…" Але трэба адразу зазначыць, што на тым часе ніякага Вільнюса не было, а была Вільня (па-польску Wilno), якая яшчэ памятала, што была колісь сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. Літоўцамі (альбо літвінамі) на тым часе менавалі сёняшніх беларусаў. І была тады краіна Літва, што называюць сёння Беларуссю. Тэрыторыю сёняшняй Літоўскай Рэспублікі тады нажывалі Жамойцю (па польску – Żmudź), а жыхароў – жамайтамі.



Напалеон называў гэты паход Другой Польскай Кампаніяй. Ён паспрыяў стварэнню на польскіх землях, якія некалі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Прусіі, Вялікага Герцагства Варшаўскага і пагражаў Аляксандру І аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 года.

У літоўскай жа шляхты былі іншыя мроі і планы – аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Першыя прапановы па аднаўленні Вялікага Княства Літоўскага зрабіў Міхал Клеафас Агінскі на сустрэчы з царом Аляксандрам 1-м у красавіку 1811 года. А 15 траўня таго ж года Агінскі перадае цару мемарыял, у якім дамагаецца выдзялення Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай вобласці ды Тарнопальскай акругі. Але цар не спяшаецца, мемарыял Агінскага адкідае. І ўсе далейшыя намаганні Агінскага і яго супольнікаў князя Друцкага-Любецкага, Казіміра і Людвіка Плятэраў, Грабоўскага, Ваўжэцкага не мелі плёну.

І вось Напалеон у Вільні. І мары літоўскай (беларускай) шляхты, нібыта, пачалі збывацца. 1 ліпеня Напалеон падпісае дэкрэт (загад) аб утварэнні Часовага ўраду Вялікага Княства Літоўскага – урадавага органу адміністрацыйнага кіравання краінай. У склад фактычна адноўленага Вялікага Княства Літоўскага ўвайшлі наступныя тэрыторыі: Віленшчына, Гродзеншчына, Беласточчына і Міншчына.

Паводле дэкрэту, адноўленае Вялікае Княства Літоўскае мусіла мець зусім асобны ад Варшавы ўрад, што ўстрывожыла палякаў. Утвораны Напалеонам урад, званы афіцыйна Камісіяй Часовай Управы, складаўся з наступных асобаў: старшыня Камісіі – магнат, маршалак надворны літоўскі Станіслаў Солтан, члены Караль Прозар, граф Язэп Серакоўскі, князь Аляксандр Сапега, граф Францішак Ельскі, граф Аляксандр Патоцкі і рэктар Віленскага ўніверсітэта Ян Снядэцкі.

Віцебская і Магілёўская губерні пакуль што не ўвайшлі ў Вялікае Княства Літоўскае. Яны ўтварылі асобную тэрытарыяльную адзінку – Беларускую губерню.

**Аднаўленае Вялікае Княства Літоўскае ў межах 1812 г.**




**Беластоцкі дэпартамент:** 1 Сакольскі павет, 2. Беластоцкі павет, 3. Бельскі павет, 4. Драгічынскі павет.
**Гродзенскі дэпартамент:** 1.Гродзенскі павет, 2.Лідскі павет, 3. Навагрудскі павет, 4. Ваўкавыскі павет, 5. Слонімскі павет, 6. Пружанскі павет 7. Брэсцкі павет, 8. Кобрынскі павет.
**Мінскі дэпартамент:** 1. Дзісенскі павет, 2. Вілейскі павет, 3. Барысаўскі павет, 4. Мінскі павет, 5. Ігуменскі павет, 6. Слуцкі павет. 7. Бабруйскі павет. 8. Пінскі павет. 9. Мазырскі павет (па-за ўладай ВКЛ), 10. Рэчыцкі павет (па-за ўладай ВКЛ).
**Віленскі дэпартамент:** 1. Тэльшаўскі павет, 2. Расенскі павет, 3. Шавельскі павет, 4. Упіцкі павет 5. Ковенскі павет, 6. Браслаўскі павет, 7. Вількамірскі павет, 8. Троцкі павет, 9. Віленскі павет. 10. Завілейскі павет, 11. Ашмянскі павет.

## Напалеон стварае літоўскае (беларускае) войска

5 ліпеня 1812 года адмысловым дэкрэтам, Напалеон Банапарт даручыў Часоваму ўраду Вялікага Княства Літоўскага сфармаваць пяць палкоў пяхоты і чатыры палкі кавалерыі, для чаго трэба было набраць 14 тысяч рэкрутаў, з іх 4 тысячы для конніцы. Адначасова быў сфармаваны 3-і полк лёгкай кавалерыі Імператарскай Гвардыі, які складаўся пераважна з добраахвотнікаў – шляхецкае моладзі. Шэфам палка быў ураджэнец Слоніма генерал брыгады Канопка.

На фармаванне палкоў пяхоты ў мабілізацыйным парадку паступіла навабранцаў: з Віленскага дэпартамента – 3 тыс., з Гродзенскага – 2,5 тыс., з іх з Беластоцкага – 1,5 тыс. Кавалерыя фармавалася ў наступны спосаб: з кожных 75 дымоў ішоў адзін вершнік з канём. На іх узбраенне збіралася па 486 з паловай злотых. Тэрмін службы Часовы Урад устанаўляў аднолькавы для ўсіх родаў войскаў – шасцігадовы.

Палкі атрымалі нумарацыю: пяхотныя за №№18 па 22-і, кавалерыя (уланы) з №№ з 17 па 20-ы. Глыбачане ўступалі ў 22-і пяхотны полк, якім камандаваў граф Станіслаў Чапскі. Галоўная штаб-кватэра палка была ў Мінску. У гэты – 22-і полк пяхоты – набіралі рэкрутаў з паветаў Мінскай губерні: Мінскага, Дзісенскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Слуцкага. Нагадаем – Глыбоччына (Дзісенскі павет) на тым часе належыла да Мінскай губерні. Акрамя таго рэкрутаў з Дзісеншчыны набіралі і ў 18-ты полк уланаў, якім камандаваў граф Караль Пшаздзецкі, са штаб-кватэрай у Нясвіжы.

Нумары палкоў, створаных на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, працягвалі нумарацыю палкоў польскага войска, але не ўваходзілі ў яго склад і падпарадкоўваліся па лініі ваеннага кіравання толькі свайму штабу, а той у сваю чаргу, непасрэдна Галоўнаму штабу Вялікага Войска. 13 ліпеня Напалеон прызначыў палкоўнікаў літоўскіх палкоў (гл. табліцу).

Было прызначана і камандаванне Літоўскім Войскам. Яго ўзначаліў дывізіённы генерал князь Рамуальд Гедройць. Брыгадны генерал граф Ксаверый Несіалоўскі стаў інспектарам пяхоты, а генерал Язэп Ваўжэцкі – інспектарам кавалерыі. Гэтыя вышэйшыя афіцэры склалі штаб нашага войска. 12 жніўня было вырашана сфармаваць яшчэ 6 батальёнаў, па 6 рот у кожным. У роце 9 афіцэраў і унтар-афіцэраў і 130 шэрагоўцаў. Камандзірамі былі прызначаныя:

1-ы батальён – Язэп Касакоўскі.
2-і батальён – Ракіцкі.
3-і батальён – Казімір Плятэр
4-ы батальён – Курчэўскі.
5-ы батальён – Абуховіч.
6-ы батальён – Лахоўскі.

Асабіста для эскорту Напалеона была сфармавана Літоўская Ганаровая гвардыя, у колькасці 20 чалавек, якую ўзначаліў князь Агінскі. Гвардзейцамі былі прадстаўнікі слынных шляхецкіх прозвішчаў.

Гэтая табліца, на падставе розных крыніцаў, апрацаваная маёрам Аляксандрам Ружанцом і змешчаная ў часопісе "Крывіч", які выдаваў Вацлаў Ластоўскі, №6 за 1923 год (гл. табліцу) .

Лепшыя сыны Літвы (Беларусі) ставалі ў 1812 годзе пад сцягі Радзімы, якая атрымала шанец на адраджэнне. Недахоп вывучкі і ваеннага досведу яны кампенсавалі сваёй адвагай на палях бітваў, шчыра верачы, што хаўрус з Напалеонам – гэта магчымасць скінуць ярмо ненавіснага замежнага рабства і аднавіць незалежнасць Айчыны. У адным з нумароў «Tymczasowej Gazety Mińskiej» за 1812 год, быў апублікаваны спіс з 20 прозвішчаў, выхадцаў з ВКЛ, якія былі ўганараваныя вышэйшай узнагародай Францыі,– Ордэна Ганаровага Легіёна.

## Напалеон па дарозе на Глыбокае

У Вільні Напалеон вымушаны быў затрымацца на 18 дзён. Ён быў не столькі заняты адраджэннем Вялікага Княства Літоўскага, колькі ў чаканні падыходу новых палкоў. Васямнаццаць дзён падаліся яму як васямнаццаць месяцаў.

16 ліпеня, яшчэ не ведаючы пра рашэнне рускага імператара – адвесці 1-ю рускую армію да Віцебска – а 22-й гадзіне Напалеон нарэшце пакінуў Вільню і адправіўся ў Свянцяны. Ён ехаў усю ноч і прыбыў туды на наступны дзень 17 ліпеня, а 2-й гадзіне імператар выехаў са Свянцянаў. Правёўшы ў дарозе яшчэ адну ноч, Напалеон праехаў Паставы.

Кароткая летняя ноч… Занімаўся світанак. Напалеон узіраўся ў мапу… Gloubokoe (Глыбокае). Пазначана досыць вялікімі літарамі – мястэчка. Умоўныя знакі побач з назовам, падказвалі: тут ёсць царква (уніяцкая), два касцёлы, кляштар, корчмы. Лявей – беразвецкі манастыр.

*Працяг на стар. 11*

| №№ палкоў | Штаб-кватэра | Імя і прозвішча шэфа | Паветы, якія далі рэкрутаў |
|---|---|---|---|
| 18-ы пяхотны | Вільня | граф Аляксандр Хадкевіч | Віленскі, Завілейскі, Вількамірскі, Браслаўскі, Ашмянскі, Вілейскі |
| 19-ы пяхотны | Расены | граф Канстанцін Тызенгаўз | Троцкі, Ковенскі, Упіцкі, Расенскі, Шавельскі, Вількамірскі |
| 20-ы пяхотны | Гродна | Барон Адам Біслінг | Гродзенскі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Пружанскі, Пінскі |
| 21-ы пяхотны | Беласток | Антон Гелгут | Кобрынскі, Брэсцкі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Драгічынскі |
| 22-і пяхотны | Мінск | граф Станіслаў Чапскі | Мінскі, Дзісенскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі |
| 17-ы уланскі | Купішкі | граф Міхаіл Тышкевіч | Віленскі, Завілейскі, Браслаўскі, Вількамірскі, Упіцкі, Расенскі, Шавельскі, Тэльшаўскі |
| 18-ы уланскі | Нясвіж | граф Караль Пшаздзецкі | Мінскі, Барысаўскі, Дзісенскі, Вілейскі, Ігуменскі, Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Слуцкі |
| 19-ы уланскі | Навагрудак | Канстанцін Раецкі | Ашмянскі, Троцкі, Ковенскі, Гродзенскі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі |
| 20-ы уланскі | Пінск | Ксаверы Абуховіч | Пінскі, Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Беластоцкі, Бельскі, Драгічынскі, Сакольскі |

**Іна Сняжкова**
**Фота Андрэй Мацур**

# Якой будзе сям'я – такой і краіна

**30 чэрвеня гэта думка неаднойчы прагучала ў касцёле св. Юды Тадэвуша ў Лучаі. Тут адбылося свята сям'і, якое сабрала разам святароў, спецыялістаў па праблемах сямейнага жыцця, сужонкаў і парафіян. У цэнтры ўвагі стаў крызіс адносін, што з усё большай сілай паглынае свет і нашу краіну ў прыватнасці.**

Сёння ў Беларусі распадаецца 80 (!) са 100 зарэгістраваных шлюбаў. Кожнае трэцяе дзіця расце без бацькі, кожнае чацвёртае нараджаецца ад адзінокіх маці. Мнагадзетных сем'яў у краіне — усяго 5%, а колькасць абортаў бесперарыўна расце. Такія дадзеныя падчас канферэнцыі прывёў заснавальнік і дырэктар дабрачыннага фонда “Адкрытыя сэрцы”, кандыдат біблейскага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч. Яго выступленне аказалася надзвычай змястоўным. У. Валаховіч закрануў дэмаграфічныя праблемы сучаснага свету, трагедыі нежадання нараджаць дзяцей, пра шкоду кантрацэпцыі і абортаў для духоўнага, псіхалагічнага і фізічнага здароўя сужонкаў. Ён зарыентаваў слухачоў на цнатлівасць, шматдзетнасць, гарманічныя ўзаемаадносіны, заснаваныя на каханні і ўзаемапавазе.

Казанне прамовіў кс. Юры Вільк з Віцебска, нядаўна прызначаны душпастырам сям'яў Віцебскай дыяцэзіі. Душпастырам стаў невыпадкова. Рос у шматдзетнай сям'і – бацькі выхоўвалі васьмёра дзяцей. Вера у Бога памагла пераадолець усе цяжкасці, звязаныя з жыллёвымі ўмовамі. Кс. Юры ўпэўніў прысутных – калі Бог дае дзіця – то дапаможа яго выгадаваць.

Падчас святочнай імшы, якая адбылася пасля канферэнцыі, можна было ўбачыць прыклады дружных і моцных сем'яў з Пастаўшчыны, а таксама Шаркоўшчыны, Глыбоччыны, Мінска, Магілёва. Большасць з іх сёлета адзначылі юбілей сумеснага жыцця. Ва ўрачыстай абстаноўцы сем'і аднавілі сваю сужэнскую прысягу. Асаблівая ўвага была скіравана на Часлава і Марыю Рачынскіх — якія сёлета адзначаюць “залаты”, пяцідзесяцігадовы юбілей свайго вяселля.

Пасля імшы парафіяне зноў разважалі пра каштоўнасці сям'і. Перад імі выступілі госці з Мінска — Іна і Андрэй Любецкія, якія з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі руху “Сужэнцкія сустрэчы”.

Скончылася свята сям'і выступленнем вядомага беларускага барда Алеся Камоцкага. Не пуставала і “Вёска майстроў” — Лучай наведалі ўмельцы з Шаркаўшчыны, клуб “Жаночы час”, у шырокім асартыменце быў наладжаны продаж мёду.

Свята сям'і ў касцёле праводзілася ўпершыню. Першы блін камяком не атрымаўся, а, наадварот, запомніўся сваёй шчырасцю і змястоўнасцю. Парафіяне спадзяюцца, што правядзенне такога мерапрыемства стане новай выдатнай традыцыяй. Увогуле – ксёндз Мікалай мае ўнікальны талент ад Бога – арганізоўваць святы для парафіян і гасцей.

Чарговы фэст святой Ганны абяцае адбыцца з размахам! Адбудзецца ён 28 ліпеня. Традыцыйна, у суботу а 17-й гадзіне.







**Выступае вядомы беларускі бард Алесь Камоцкі.**

# Моцны ўраган нарабіў шмат шкоды Глыбокаму

**Уладзімір Скрабатун**

**Нішто нібыта не прадвяшчала стыхію... Сайт http://rp5.by/ паказваў малую верагоднасць дажджу, слабы вецер...**

Аўтар гэтых здымкаў перад пачаткам урагану неабачліва зайшоў ў цяпліцу паглядзець, як там пачуваюцца перцы і баклажаны... І тут пачалося! Заблісказі маланкі, наляцеў ураганны вецер, дождж ліў суцэльнай белай сцяной і разглядзець штосьці на вуліцы было не магчыма.

Жахлівае відовішча! Гэта не тое, што перачакаць навальніцу ў хаце, а тут – цяпліца. Над галавой бліскаюць маланкі, грыміць гром. Я ледзьве не спалохаўся, калі пачало ствараца ўражанне, што неўзабаве мяне і цяпліцу панясе ў паветра.

Хвілін 30 гэта доўжылася... Скончылася, выглянула сонца, настала бязветрыя... Поўны штыль! І нібыта нічога і не было. Выйшаў з цяпліцы, бачу: сланечнікі ўсе паваленыя долу, пачаў іх узнімаць, абсыпаць зямлёй карані, умацоўваць. Бачу: яблыня ранетка ляжыць на зямлі, думаў, што зламала ветрам ці вырвала з каранём, але пашанцавала – яе проста нахіліла да самай зямлі, але без дапамогі чалавека яна ўжо не паднялася б.

Зайшоў у дом – электрычнасці няма! А тут тэлефануе на мабільнік братава жонка, якая з вернікамі выйшла з касцёла і ўбачыла наступствы ўрагана на пляцы 17 Верасня.

Шкада дрэваў! І гэта напярэдадні свята – Дня беларускага пісьменства і друку. Вельмі шмат ужо выканана работ па добраўпарадкаванні горада. А тут такі ўрон нанесены парку Перамогі і скверу на пляцы 17 Верасня. Шкада працы нашых глыбачанаў. А тут яшчэ дадатковыя выдаткі на добраўпарадкаванне!

Падчас фатаграфання наступстваў урагану падышла жанчына, якая жыве на пляцы 17 Верасня і паведаміла: «Так трасліся шыбы ў вокнах, трасліся сцены, што радыёпрыёмнік зваліўся з шафы долу!».

Гэта, праўдападобна, і быў пік стыхіі, калі паваліліся блакітныя яліны, зваліліся долу вялізныя сукі вярбы ніцай.

Цікава, што «апакаліпсіс» прайшоўся паласой, не закрануў усё Глыбокае. Людзі з Беразвечча кажуць, што там ніякіх відавочных наступстваў урагану не бачна. Ураган прайшоўся праз цэнтральную частку горада.

Пасля стыхіі глыбачане жыва абмяркоўвалі падзеі па мабільніках. Апавядалі розныя неверагодныя гісторыі. Накшталт таго, што пярун лясnуў у ваданапорную вежу і ў паловы горада прапала вада, іншы пярун лясnуў у высокую дымавую трубу, ды так, што з яе, нібыта, пасыпалася цэгла. Але гэта, праўдападобна, фантазіі.



*Вельмі шкада блакітных ялінаў на пл. 17 Верасня, якіх стыхія вырвала разам з каранямі. Не будзе тут прыгожай навагодняй ілюмінацыі! Фота Ул. Скрабатуна.*

Дарэчы, якраз у час урагану найбольшая колькасць ападкаў 8 ліпеня выпала ў Лынтупах (Віцебская вобласць) — 58 мм, ці 58 літраў вады на квадратны метр тэрыторыі. Гэта складае 65% месячнай нормы. У гэты ж дзень тэмпературны рэкорд дня быў пабіты ў Мінску.

Паводле дадзеных рэсурсу meteoinfo.by, слупок тэрмометра падняўся да адзнакі плюс 31,7 градуса, што на 0,7 градуса больш за абсалютны максімум, зафіксаваны 8 ліпеня 2006 года.



**Устараненне наступстваў урагану на вул. Маскоўскай.** *Фота Івана Касевіча.*



**На вул. І. Буйніцкага цэлую паласу бярозаў разам з дзірваном ураган ледзьве не скруціў у рулон.** *Фота Івана Касевіча.*



**На вуліцы Кірава зваліўся павільён аўтобуснага прыпынку.** *Фота Івана Касевіча.*



**Лесапавал у парку Перамогі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

